# І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Верасень 2014

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну

## Што дэпутаты расейскага паходжаньня думаюць пра беларускую мову




стар. 2

19-гадовы хлопец з Рэчыцы забіў сваю аднагодку-сяброўку, калі яна сказала яму пра цяжарнасць, якую выдумала.
стар. 4

«Хто першы памёр — той і лёг!»: у Гомелі дзве сям'і судзяцца за месца на могілках
стар. 6

Суддзю пасадзілі за каньяк, чырвоную рыбу ісотку баксаў
стар. 8

# Што дэпутаты расейскага паходжаньня думаюць пра беларускую мову

***Дэпутатам у Беларусі можа быць толькі грамадзянін Беларусі, і аўтаматычна лічыцца, што ўсе парлямэнтары ў нас беларусы. Ды і графы «нацыянальнасьць» у пашпарце няма. Але па месцы нараджэньня можна спрабаваць вызначыць, якога паходжаньня той ці іншы «прадстаўнік народу».***

Дэпутатаў Парлямэнту, якія нарадзіліся не ў Беларусі — 12 чалавек, гэта 11% ад агульнай колькасьці. Васьмёра нарадзіліся ў Расеі, і яшчэ чацьвёра — ва Ўкраіне.

Я вырашыў пацікавіцца, што яны думаюць аб неабходнасьці разьвіцьця беларускай мовы і культуры? Сёньня пагаворым аб пазыцыі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія нарадзіліся ў Расеі.

Дэпутат Ала Сопікава, якая нарадзілася на станцыі Салянка Нарымаўскага раёна Астраханскай вобласьці, дэпутат Сьвятлана Чэкан, якая нарадзілася ў г. Саратаве і дэпутат Уладзімір Краўцоў з г. Падпарожжа Ленінградскай вобласьці у адзін голас паўтараюць, што пашырэньне ўжываньня беларускай мовы толькі павялічыць дакумэнтаабарот:

«Выкладзеныя ў Вашым лісце прапановы аб унясенні змяненняў у Закон „Аб мовах“ прывядуць да значнага павелічэння аб'ёму дакументаабароту і ўскладнення парадку выкарыстання дзяржаўных моў, што, на мой погляд, з'яўляецца немэтазгодным». Відаць, яны таксама сталі часткай «калектыўнага розуму беларускага Парлямэнту». Зноў мы бачым, як у адны ладкі б'юць і аб немэтазгоднасьці і «сваім поглядзе» кажуць.

Уладзімір Краўцоў таксама лічыць, што «замацаванне для ўсіх удзельнікаў праваадносінаў, у тым ліку грамадзян, арганізацый недзяржаўнай формы ўласнасці, абавязку на адначасовае выкарыстанне ва ўсіх выпадках беларускай і рускай мовы можа абмежаваць права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў, што гарантавана часткай 3 артыкула 50 канстытуцыі».

Цікава, як гэта можа супярэчыць Канстытуцыі, калі ў ёй замацавана двухмоўе і роўны статус дзьвюх дзяржаўных моваў? Мабыць, дэпутату ня надта хочацца перавучвацца на беларускую. Дзьвюхмоўе дзьвюхмоўем, але лепш парускую.

Дэпутат ад Полацкай гарадзкой акругі № 28 Натальля Гуйвік, ў мінулым судзьдзя Полацкага гарадзкога суду, якая нарадзілася ў г. Кіраве, паведаміла: «на мой погляд, Ваша прапанова на сённяшні дзень не з'яўляецца для краіны найбольш важнай і патрабуючай першачарговага вырашэння ў Палаце прадстаўнікоў, таму я лічу немэтазгодным у дадзены час выступаць з прапанаванай Вамі заканадаўчай ініцыятывай».

Прадстаўніца Полацка, горада, дзе зараджалася беларуская дзяржаўнасьць, і адкуль паходзіць першадрукар Скарына, ня лічыць пашырэньне беларускай мовы важным пытаньнем. Ці-




Што маскалю — стул, тое беларусу — крэсла.

# Што дэпутаты расейскага паходжаньня думаюць пра беларускую мову. Працяг

кава, калі гэтае пытаньне стане важным? Тады, калі на мяжы апынуцца расейскія танкі, як гэта было ва Ўкраіне?

Дэпутатка Гуйвік мне прапануе зьбіраць подпісы: «Паводле часткі 1 артыкула 99 Канстытуцыі права заканадаўчай ініцыятывы належыць таксама грамадзянам, якія валодаюць выбарчым правам, у колькасці не менш як 50 тысяч чалавеук. Такім чынам, Вы маеце права выступіць з заканадаўчай ініцыятывай самастойна, калі Вас падтрымае ў гэтым 50 тысяч грамадзян, якія валодаюць выбарчым правам».

Іншымі словамі: тое, што я магу зрабіць сама, зрабі ты, Ігар, сам, але яшчэ і 50 тысяч подпісаў зьбяры. Чаму тады ў Парлямэнце ня Ігар Случак, а Натальля Гуйвік, калі яна сваёй працай не жадае займацца?

Яшчэ адна дэпутатка-судзьдзя, Людміла Міхалькова, якая прадстаўляе Жыткавіцкую акругу № 39 і нарадзілася ў горадзе Савецкая Гавань Хабараўскага краю, піша, што «падрыхтоўка законапраекта па ўнясенню змяненняў і дапаўненняў у Закон „Аб мовах“ да разгляду Палаты прадстаўнікоў уваходзіць у кампетэнцыю Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы. Таксама паведамляю, што Вашы прапановы па Закону „Аб мовах“ будуць абмеркаваны пры ўнясенні змяненняў і дапаўненняў у названы Закон, калі такі законапраект будзе ўнесены ў Палату прадстаўнікоў».

Адказ двухсэнсоўны: не ў маёй кампэтэнцыі, але калі будзе праект, то буду разглядаць. Юрыстка з Савецкай Гавані забывае, што ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй кожны дэпутат Парлямэнту можна выступаць з заканадаўчай ініцыятывай па любым пытаньні, нягледзячы на тое, у склад якой Парлямэнцкай камісіі ён уваходзіць. Было б толькі жаданне.

Але Ала Сопікава, якая ўваходзіць ва ўзгаданую Камісію па адукацыі, таксама лічыць пашырэньне беларускай мовы немэтазгодным. Замкнёнае кола.

Дэпутат ад Берасьцейскай-Памежнай акругі № 4, палкоўнік Уладзімір Базанаў, намесьнік старшыні Пастаяннай камісіі па нацыянальнай бясьпецы, які нарадзіўся ў вёсцы Бардзінскае Бабаеўскага раёну Валагодзкай вобласьці, даў разгорнуты адказ зь вялікай колькасьцю граматычных памылак на тэму, чаму нельга зараз унесьці зьмены на падставе розных нарматворчых працэдураў, і падсумаваў: «ўнясенне змяненняў у Закон як адзін з спосабаў дасягнення мэты папулярызацыі і развіцця беларускай мовы не ўяўляецца абгрунтаваным, паколькі дзеючай рэдакцыяй Закона мачымасць ужываць ужывання беларускай і рускай моў у праадносінах, урэгуляваных абранымі Вамі асобнымі палажэннямі Закона не абмежавана».

Нездарма ж столькі граматаў з Расеі, калі меркаваць па фота, атрымлівае. Ня ведаю, як вы, а мне неспакойна за беларускую нацыянальную бясьпеку. Зноў украінскія паралелі просяцца.

Яшчэ два дэпутаты, якія нарадзіліся ў Расеі, пакуль не адказалі.

Да гэтага яшчэ вернемся, а ў бліжэйшых запісах вы даведаецеся, што беларускія дэпутаты ўкраінскага паходжаньня думаюць пра пашырэньне беларускай мовы і культуры.

*Ігар Случак*

# Гамяльчук 1984 года нараджэння пагражаў пасажырам тралейбуса нажом

***16 верасня ў Гомелі на прыпынку «8 Сакавіка» міліцыя аператыўна затрымала жыхара абласнога цэнтра 1984 года нараджэння, які пагражаў пасажырам тралейбуса нажом.***

Як паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, затрыманы раней не судзімы, на ўліку ў міліцыі не стаіць, да адміністрацыйнай адказнаці не прыцягваўся.

Разам з тым у Гомельскай абласной псіхіятрычнай бальніцы, куды даставілі неадэкватнага пасажыра, сказалі пра маладога чалавека «наш кліент». Верагодна, хуліган стаіць на ўліку ў псіхіятра.

Абставіны і прычыны ўчынку высвятляюць праваахоўныя органы і ўрачы-псіхіятры.

*БелаПАН*

Беларускія навукоўцы даказалі:



БУЛЬБА ЎСЁ ПАМЯТАЕ І ЯНА БУДЗЕ ПОМСЦІЦЬ.

# 19-гадовы хлопец з Рэчыцы забіў сваю аднагодку-сяброўку, калі яна сказала яму пра цяжарнасць, якую выдумала.

***19-гадовая Віка на працягу некалькіх месяцаў падманвала свайго хлопца Аляксея, сцвярджаючы, што цяжарная ад яго і нават што нарадзіла дзіця.***

Трагічна скончылася вясковая «Санта-Барбара» ў Рэчыцкім раёне. 19-гадовая дзяўчына на працягу некалькіх месяцаў хлусіла свайму сябру, што цяжарная ад яго і нават нарадзіла дзіця. Ён жа вырашыў яе забіць праз гэта. Знарок ці выпадкова, жудаснае злачынства адбылося на Дзень усіх закаханых, 14 лютага. У верасні пачаўся судовы разгляд крымінальнай справы.





Згодна з абвінавачваннем, 14 лютага каля 21.30 ля вёскі Пераралока Рэчыцкага раёна зямляк паэта Сыса, жыхар вёскі Гарошкаў 1994 года нараджэння, здзейсніў забойства 19-гадовай дзяўчыны, жыхаркі вёскі Салтанова.

Дапамагаў магчымаму забойцу (ступень яго віны дакажа суд) яго сябра, жыхар вёскі Броннае 1993 года нараджэння.

Аляксей, былы хлопец Вікі, забіў яе, некалькі разоў стукнуўшы палкай па галаве. Калі дзяўчына памерла, да яе цела злачынца прывязаў мяшок з камянямі і ўтапіў ў сажалцы.

Суд спрабуе да драбніц высветліць абставіны таго Дня ўсіх закаханых, які стаў для 19-гадовай Вікі апошнім.

У судовай зале шмат людзей. Сваякі забітай і імаверных забойцаў сядаюць далей адны ад адных. Але і тыя, і другія часта не могуць стрымаць слёз.

Хлопцы ж на лаве падсудных трымаюцца спакойна, упэўнена і нават бадзёра. Вячаслаў часам весяліцца, з гатоўнасцю адказвае на пытанні суддзі. Аляксей паказвае сваякам сціснуты і ўзняты кулак, стрымана ўсміхаецца.

Паказанні, якія давалі абвінавачаныя на следстве, месцамі адрозніваюцца ад тых, якія яны агучваюць у зале суда. Але гэта тычыцца не асноўных момантаў злачынства. Па версіі Аляксея, з Вікай ён раней вучыўся ў НВК (навучальны-вытворчы камбінат), але не сябраваў. Неяк у 2013 годзе яны выпадкова сустрэліся ў Рэчыцы на вуліцы, завязалася блізкае знаёмства, маладыя людзі пачалі сустракацца. Праз два месяцы пасля знаёмства дзяўчына «абрадавала» Аляксея весткай пра тое, што цяжарная. Ён жа не хацеў мець з Вікай сур'ёзных адносінаў і таму прапанаваў зрабіць аборт. Дзяўчына адмовілася.

Потым высветлілася, што пра цяжарнасць дзяўчына схлусіла. Такім чынам яна спрабавала ўтрымаць Аляксея, бо заўважыла, што ён змяніў свой статус «Укантакце» — займеў іншую сяброўку.

Гэта і вымусіла Віку прыдумаць версію пра цяжарнасць. Дзяўчына пачала таксама пагражаць сябруку, што ў выпадку, калі ён яе кіне, яна пойдзе да бабак-шаптух і «навядзе на яго псую». Па словах другога абвінавачванага, Вячаслава, яго сябар Аляксей баяўся пагроз пра псую, таму не кідаў дзяўчыну, прыязджаў да яе перыядычна. Аляксей таксама ў сваіх паказаннях на папярэднім следстве прызнаваўся, што баяўся пагроз Вікі, што тая пры дапамозе вядзьмарак «адбярэ ў мяне здароўе». Тады, восенню 2013 года, у хлапца нарадзілася такая думка, якую ён агучыў у паказаннях: «Калі ў Вікі будзе выкідыш, гэта пазбавіць мяне праблем, яна больш не будзе палохаць мяне шаптухамі і нагнятаць абстаноўку».

Ён папрасіў свайго сябрука Вячаслава, каб той падпільнаваў дзяўчыну і пабіў яе нагамі ў жывот. Хлопец спадзяваўся, што пасля гэтага ў дзяўчыны здарыцца выкідыш.

Суддзя ўдакладняе: «Адкуль вы такое ўзялі, што, калі пабіць нагамі ў жывот, — будзе выкідыш? Вы чыталі адмысловую літаратуру?» Аляксей адказвае: «Бачыў такое па тэлевізары, у серыяле. Нехта штурхнуў дзяўчыну, яна стукнулася — і ў яе здарыўся выкідыш».

Дарэчы, вінавацілі «ва ўсім»

тэлевізар, фільмы і серыялы і сваякі забітай дзяўчыны, калі размаўлялі пасля судовага паседжання. «Гэта ж дзеці, ім жа па 20 гадоў, праблемы не ўмеюць вырашаць, наглядзеліся тых серыялаў ды вось так атрымалася», — разважалі вяскоўцы.

У той восеньскі вечар Вячаслаў пільнаваў дзяўчыну ў кустах ля яе дома. Аляксей жа, дамовіўшыся з ім, падвёз Віку дахаты і абяцаў патэлефанаваць, калі ахвяра будзе на месцы.



Віка выйшла з аўтамабіля Аляксея, той патэлефанаваў Вячаславу, хлопец нацягнуў на галаву пакунак (каб яна яго не пазнала) і кінуўся на ахвяру са спіны. Ад моцнага ўдару дзяўчына звалілася на зямлю і закрычала. Спрацавала сігналізацыя на прыпаркаваным побач аўтамабілі, злачынца спалохаўся і збег. Пазней ён даў справаздачу сябру, што ўсё-такі пабіў, як той і прасіў, Віку нагамі па жываце.

«Чаму вы згадзіліся на просьбу сябра пабіць Віку? Вы разумелі, якія могуць быць наступствы для дзяўчыны?» — суддзя. «Я не ведаю. Цяжка сказаць», — мямліць Вячаслаў.

Тым часам Віка паскардзілася на тэлефоне Аляксею, што нехта напаў на яе каля пад’езда. Яна працягвала настойваць, што цяжарная. Праз яшчэ нейкі час дзяўчына паведаміла, што яна нарадзіла раней тэрміну дзіця, і хлопчык знаходзіцца «пад каўпаком» у шпіталі ў Гомелі.

Аляксей сцвярджаў на судзе, што неаднаразова прасіў Віку паказаць «сына», тая ж адneкалася, тлумачыла, што немаўля то ў шпіталі, то ў бабулі. Між тым прасіла, па словах хлопца, у яго грошы на «памперсы». Дзяўчына казала, што сына назвала Маратам.

У лютым, відавочна, Аляксей вырашыў забіць Віку. На судзе ён даводзіць, што не планаваў забойства і гэта выйшла выпадкова, у спрэчцы.

«Мы ехалі на дыскатэку ў вёску Перавалока. Па дарозе пачалі сварыцца, выйшлі з аўтамабіля, кіраваў якім Вячаслаў, сварыліся, яна мяне абражала, штурхала кулаком у грудзі, лаялася матам, я не вытрымаў, схапіў нейкую палку і стукнуў яе некалькі разоў па галаве», — распавядаў малады чалавек.

Доказы гавораць пра іншае. У багажніку аўтамабіля быў ужо падрыхтаваны мяшок з цаглінамі, дрот, гумавыя боты. Мяшок з цаглінамі пры дапамозе дроту забойца прывязаў да цела ахвяры і скінуў яго ў тэхнічны вадаём. Боты ж былі патрэбныя, каб дабрацца па возеры да палонкі.

Вячаслаў даказваў на судзе, што нічога не ведаў. Пра тое, адкуль у багажніку з’явіліся дрот і мяшок з камянямі, гаворыць, што паклаў іх Аляксей перад паездкай, патлумачыўшы, што хоча «запалохаць Віку». Якім менавіта спосабам — не ўдакладняў.

Па словах Вячаслава, ён не дапамагаў забіваць дзяўчыну, бачыў, як Аляксей яе стукнуў палкай. Потым дапамог дацягнуць цела да штучнага возера.

«Чаму вы не дапамаглі Віцы, не абаранілі яе, калі бачылі, як Аляксей яе б'е палкай па галаве?» — пытаецца суддзя.

«Я быў у шокавым стане. Я баяўся Аляксея», — апраўдваецца хаўруснік.

Пасля забойства хлопцы едуць у Рэчыцу, ідуць піць у бар, потым набываюць «віно, шакаладку і прэзерватывы» і бавяць вечар і частку ночы ў кампаніі дзяўчат.

На пасяджэнне не з’явіліся сведкі, таму суд вынес рашэнне даставіць іх прымусова.

Нагадаем, гэта не адзінае жорсткае забойства ў Рэчыцкім раёне. Так, 29 жніўня 2013 года была жорстка забітая і знявечаная 19-гадовая жыхарка Рэчыцы Алеся. Яе забойца арыштаваны, неўзабаве ў Гомельскім абласным судзе пачнуцца слуханні справы. Забойца і яго ахвяра былі знаёмыя, яны былі аднагодкі. Ён праводзіў дзяўчыну дахаты, а потым жорстка забіў яе.

Летам 2013 года каля вёскі Воўчая Гара Рэчыцкага раёна была забітая 23-гадовая Ліля, выпускніца Мазырскага педуніверсітэта. Выявілася, што забраў у яе жыццё былы сябар і аднакурснік. Дзяўчына адмовілася працягваць з ім стасункі. Помста яго была страшнай. На судзе малады чалавек атрымаў за забойства 15 гадоў.

Пасля судовага пасяджэння да маці забітай дзяўчынкі падыходзіць маці Аляксея. Дзве жанчыны пра нешта ціха размаўляюць каля акна, абедзве горка плачуць.

Чуваць, што маці хлопца просіць прабачэння ад яго імя. Сам ён пакуль гэтага не зрабіў.

*Юлія Шымкевіч, Рэчыца*

ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

## Матч чэмпіянату Беларусі, што павінен быў прайсці ў Рэчыцы, перанеслі з-за візіту Лукашэнкі ў Гомельскую вобласць

***Матч 20-га тура першай лігі «Рэчыца-2014» — «Хваля» перанесены з 13-га на 14-е верасня. Пачатак гульні ў 15:00.***

Перанос матчу адбыўся ў сувязі з прыездам Аляксандра Лукашэнкі ў 13-га верасня ў Гомельскую вобласць, паведамляе *By.tribuna.com*

## Каля Цыкуноў VW разарвала на часткі пасля наезду на дрэва: хто быў за рулём, незразумела

***У Гомельскім раёне, на дарозе Гомель — Цыкуны, раніцай 20 верасня VW Vento з'ехаў у правы па ходзе руху кювет і ўрэзаўся ў дрэва.***

Удар быў настолькі моцны, што аўтамабіль разарвала на часткі, а кіроўцу і пасажыра выкінула з салона.

«Мужчына загінуў на месцы, а яго аднагодку, 52-гадовую жанчыну, шпіталізавалі ў рэанімацыйнае аддзяленне абласной бальніцы, — паведаміла AUTO.TUT.BY прадстаўнік ДАІ Гомельскай вобласці Кацярына Радзівонава. — Прызначаная аўтатэхнічная і медыцынская экспертызы, таксама высвятляецца, хто з пацярпелых знаходзіўся за рулём аўтамабіля».

*Tut.by*



## «Хто першы памёр — той і лёг!»: у Гомелі дзве сям'і судзяцца за месца на могілках

***У суд як інстанцыю пошукаў «законнай справядлівасці» людзі звяртаюцца з рознымі праблемамі. Некаторыя грамадзяне ходзяць у суд як на працу. Адзін чалавек у Гомелі 12 гадоў судзіцца з прадпрыемствам, якое яго звольніла. Праз суд дзеляць сем'і, дзяцей, нерухомасць, грошы і нават месцы на могілках.***

Калі нарматыў жылой плошчы для чалавека — 15 квадратных метраў, то на могілках кожны грамадзянін РБ пасля смерці мае права атрымаць участак 1,6 на 2,2 метра ці падвойны ўчастак плошчай 2,2 на 2,3 метра. На падвойным участку можна хаваць сваякоў: унукаў, бабуль, братоў, бацькоў, стрыечных пляменнікаў і так далей.

Галоўнае, каб пахаванне адбылося ў згодзе з іншымі блізкімі сваякамі, якія не прэтэндуюць на дадзенае месца. Каб не было праблем, тыя, хто хавае сваіх блізкіх, даюць распіску аб тым, што ў выпадку ўзнікнення непаразуменняў паміж сваякамі з-за таго, хто мае большае права спачываць у дадзенай магіле, усе судовыя выдаткі бярэ на сябе сваяк памерлага.

Цяпер у адным з раённых судоў Гомеля разглядаецца грамадзянская справа па пазове жыхароў абласнога цэнтра да мужчыны, які без іх дазволу пахаваў сваю маці каля іх сваякоў. Па словах заяўнікаў, адказчык не меў такога права, бо не з'яўляецца іх сваяком і не ўзгадняў з імі пытанне пахавання сваёй маці.

Заяўнік сцвярджае, што ён пахаваў маці менавіта ў гэтым месцы таму, што выконваў яе апошнюю волю — яна пры жыцці прасіла сына пахаваць менавіта тут, каля сваіх знаёмых, магілы якіх прыбірала пры жыцці.

Мірным шляхам бакі не дамовіліся. Таму цяпер справу разглядае суд. Заяўнік патрабуе эксгумацыі жанчыны, якая памерла больш чым год таму. Калі адказчык прайграе суд, ён будзе вымушаны правесці эксгумацыю за свой кошт і выплаціць судовыя выдаткі.

Часам здараецца і такое, што блізкія людзі праз суд аспрэчваюць права адзін аднаго быць пахаваным каля, напрыклад, бацькоў. Прычым у судзе людзі часам апелююць такімі аргумента, як «ён маці не любіў, не клапаціўся пра яе, таму я павінна быць пахаваная там, а не мой брат».

Так, паўтара года судзілася ў розных інстанцыях жыхарка Гомеля са сваякамі яе брата-нябожчыка. Калі памёр брат, яго пахавалі каля спачылых бацькоў. Сястра была супраць, бо меркавала, што яна і яе муж павінны там пасля смерці быць пахаваныя. Маўляў, пры жыцці бацькоў існавала такая вусная дамоўленасць: у выпадку смерці дачка зможа ляжаць побач з імі, як і яе муж.

Тым часам брат памёр першым. Сястра ж пачала дабівацца праз суд яго эксгума-

## «Хто першы памёр — той і лёг!»: у Гомелі дзве сям'і судзяцца за месца на могілках. Працяг

цыі і перапахавання ў іншым месцы. Суду, можна сказаць, прапаноўвалася роля «ацэншчыка» ступені маральнасці і любові да бацькоў бакоў — вызначыць, хто (брат ці сястра) больш годны спачываць каля бацькоў.

Суд паставіў кропку ў гэтай працяглай справе такім чынам, што рацыю і права на пахаванне каля бацькоў мае той з дзяцей, хто першы пакінуў гэты свет. Прасцей кажучы: «Хто першы памёр, той і лёг».

* * *

На тую ж тэму: кампенсацыя за зніклую котку. Летам 2014 года суд Чыгуначнага раёна Гомеля разглядаў грамадзянскі пазоў валанцёра па абароне жывёл да маладой жыхаркі абласнога цэнтра, якая ўзяла на «часовае захоўванне» (ператрымку) котку і не вярнула яе назад.

Зніклая котка выступала ў судзе як «страчаная маёмасць», кошт якой быў ацэнены заяўнікамі ў мільён рублёў.Паміж валанцёрам і адказчыцай была вусная дамоўленасць узяць да сябе жыць няшчасную котку. Абгаворвалася, што калі жывёла будзе паводзіць сябе дрэнна, то дзяўчына зможа вярнуць яе валанцёрам.




Але калі маладая жыхарка Гомеля паскардзілася валанцёрам на нягодныя паводзіны коткі і тыя прыехалі яе забраць — жывёла знікла. Котка, у мінулым — бадзяжная, недзе збегла, і дзяўчына не змагла яе вярнуць. Суд палічыў пазоўныя патрабаванні неабгрунтаванымі і адмовіў у задавальненні пазову.

*На тую ж тэму: 12 гадоў у судах*

У пошуках «справядлівасці» грамадзяне не шкадуюць ні свайго часу, ні сродкаў. Так, 12 гадоў грукаецца ва ўсе інстанцыі 87-гадовая жыхарка Гомеля, якая спрабуе даказаць, што яе сын незаконна быў звольнены з працы ў 2002 годзе.

Мужчына працаваў кіроўцам на «хуткай дапамозе», і неяк яго абвінаваціла міліцыя ў крадзяжы паліва. Яшчэ да суду кіроўцу звольнілі «за дзеянні, якія з'яўляюцца падставай для страты даверу з боку наймальніка».

Маці былога кіроўцы, якая абараняе яго інтарэсы, не пагадзілася з такой фармулёўкай і пайшла па інстанцыях. Пачала з раённых судоў, дайшла да генпракуратуры і Адміністрацыі прэзідэнта. Сына на працы не ўзнавілі. Але свае намаганні і сёння не лічыць марнымі.

На пытанне, чаму за гэтыя гады сын не знайшоў іншую працу, жанчына адказвае: «А чаму ён павінен шукаць працу? Яго звольнілі незаконна, і таму ён не павінен ісці месці вуліцы!»

*Юлія Шымкевіч, Гомель*

## Жыхар Рэчыцкага раёна зваліўся з даху і напароўся на арматуру

***Жыхар Рэчыцкага раёна смяротна траўмаваўся пры падзенні з даху свайго дома на арматуру, паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС.***

59-гадовы мужчына праводзіў рамонт даху. Працаваў з паяльнай лямпай. Падчас рамонту адбылася моцная ўспышка пароў бензіну, пасля якой мужчына, страціўшы раўнавагу, зваліўся з даху ўніз. Металічны прут прабіў яго цела наскрозь.

Супрацоўнікі МНС перадалі пацярпелага брыгадзе медыкаў. Аднак неўзабаве мужчына памёр у бальніцы ад атрыманых траўмаў.

*БелТА*

## У Рэчыцы хлопчык атрымаў цяжкія апёкі твару з-за выбуху петарды «Чорная смерць»

***У Рэчыцы хлопчык атрымаў цяжкія апёкі твару з-за выбуху петарды «Чорная смерць»***

У Рэчыцы 12-гадовы хлопчык атрымаў цяжкія тэрмічныя апёкі пры выкарыстанні петарды «Чорная смерць», паведамілі ў прэс-службе Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС.

У двары бабулінай хаты дзеці запускалі петарду «Чорная смерць». Дзіця атрымала тэрмічныя апёкі.

Пашкоджаныя твар, вочы. Хлопчык атрымаў апёкі 1 - 3 ступені, у тым ліку рагавіцу вачэй. Ён з раённай бальніцы ў цяжкім стане адпраўлены ў Гомельскую абласную спецыялізаваную клінічную бальніцу.

*112.by*

# Суддзю пасадзілі за каньяк, чырвоную рыбу і сотку баксаў

***Вярхоўны суд Беларусі вынес прысуд па гучнай крымінальнай справе: за краты адправілі былога суддзю Савецкага раёна Гомеля Юрыя Жорава. Яго прызналі вінаватым у атрыманні хабару і пакаралі пазбаўленнем волі на 14 гадоў.***

Праўда, год скінулі па амністыі. За што судзілі? За бутэльку каньяку, каву, чырвоную рыбу — усё ў савецкай традыцыі. І «сотку баксаў» — гэта навінка ўжо з шалёных дзевяностых.

Бралі суддзю супрацоўнікі КДБ у лютым 2014 года. Чэкісты тады не надта расказвалі пра падрабязнасці. У красавіку, у пасланні беларускаму народу, пра Жорава ўзгадаў сам Лукашэнка. Аказалася, за суддзёй два месяцы быў «хвост», у кабінеце стаялі «жучкі» і камеры, тэлефоны таксама былі на праслушцы. А пасля выявілася, што ўсё гэта незаконна. Праўда, увагі на гэта ніхто, акром адваката, не звярнуў. Кабінет суддзі з'яўляецца дарадчым пакоем, дзе ён вырашае лёс абвінавачаных. Доступ туды адкрыты толькі суддзям, але яны не маюць права нават абмовіцца, што адбываецца за зачыненымі дзвярыма. А тут чэкісты ладзілі проста анлайн-прагляды адтуль.

У справе Жорава фігуравалі яшчэ юрыст і адвакат, якія нібыта і перадавалі хабар. Але яны за краты не трапілі. Аднаго адпусцілі па амністыі «як пацярпелага ад аварыі на ЧАЭС», іншы ж «пакаяўся»: напісаў прызнанне і даў КДБ патрэбныя паказанні. На судзе яны выступалі сведкамі.

Відэазапіс з кабінета суддзі паказаў шмат цікавага. Як суддзя часам выпіваў з калегамі-юрыстамі і выказваўся пры гэтым на розныя тэмы. Можа, менавіта да тых шчырых размоў нападпітку і ўзніклі пытанні ў чэкістаў?

Пасля лютаўскага арышту Юрыя Жорава з суда Савецкага раёна сышлі іншыя работнікі. 26 чэрвеня Лукашэнка падпісаў указ, па якім «па ўласным жаданні» былі вызвалены суддзі Сяргей Шаўструк, Сяргей Уласаў і намеснік старшыні суда Віктар Купрацэвіч. Яны за краты не трапілі, а знайшлі іншую працу. Нагаварылі лішняга ў кабінеце калегі?

Што ж стала падставай для праслушкі самаго Жорава? Некаторыя звязваюць гэта з дзейнасцю яго маці Маргарыты Жоравай. Раней яна працавала намесніцай старшыні ўпраўлення юстыцыі Гомельскага аблвыканкама, была членам Цэнтрвыбаркама, намеснікам старшыні пастаяннай камісіі па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве папярэдняга савета рэспублікі. У снежні 2013 яе прызначылі старшынёй Гомельскай абласной натарыяльнай палаты. Тады КДБ і пачаў сачыць за яе сынам.

***Чым праславіўся Жораў***

Суддзя Юрый Жораў у 2008 адзначыўся ў справе палітжаўнера, кіраўніка Гомельскай абласной арганізацыі «Моладзь БНФ» Змітра Жалезнічэнкі. Вытдатніка Жалезнічэнку забралі ў армію адразу пасля выключэння з універсітэта. Маці хлопца вырашыла судзіцца з ваенкаматам. Тады, 8 лютага, суддзя Жораў прыпыніў рашэнне ваенкамата аб прызыве Змітра на службу. Але ўжо 14 лютага даў дабро на працяг яго службы.

А ў 2009 прозвішча суддзі з'явілася ў прэсе ў сувязі з іншым палітжаўнерам з Гомеля — Андрэем Цянютам. Калі сябра «Маладога фронту» забралі ў войска, ён напісаў заяву на альтэрнатыўную службу. Яму адмовілі. Тады хлопец звярнуўся ў суд. Суддзя Жораў адмовіўся разглядаць справу — прапанаваў спачатку звяртацца ў абласны ваенкамат. А абласны суд паправіў Жорава — скаргу вярнулі ў суд Савецкага раёна. Праўда, служыць Цянюту давялося да канца.

*Юлія Шымкевіч*

З кнігі «Этыкет для 45-гадовых»: будзьце адкрытымі. Калі размаўляеце па тэлефоне ў грамадскім транспарце, не стрымлівайце сябе. Крычыце.

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Верасень 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на паперовай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva
**Вольга Пыхава:** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA